ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 5(5187)
Субота,
13 студзеня
2001 года

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

*Кошт у розніцу — 47 руб.*

З чым ідзём да дзяцей?

# Як стварыць "візітоўку"?

## На што ўплывае культура вуснай мовы настаўніка

ЯКАЯ Ж назва таго фільма?.. Памятаеце, бацькі дзяўчынкі, у якой былі недахопы маўлення, запрасілі лагапеда, каб ён (спецыяліст жа!) выправіў яе вусную мову? Калі не памыляюся, то фільм называецца "Па сямейных абставінах". Дык вось, дзядулю дзяўчынкі давялося выступаць у ролі перакладчыка, каб унучка і дамашнія маглі зразумець "красамоўнага" лагапеда. Успомнілі беспадобнага Ралана Быкава? "Улица Кой-ко-го", "Февачка", "Фефекты фечи" і іншыя падобныя перлы. Пародыя, канешне ж. Але якая дасціпная! Як сказаў паэт, "мы все учились понемногу — чему-небудь и как-небудь"... "Аднак не да такой жа ступені", — запярэчыць нехта. А чаго пярэчыць? На тое і сатыра, каб ў ёй была гіпербала. Хаця, па шчырасці, каму з нас хочацца паглядзець на сябе скрозь павелічальнае шкло?.. А лагапеда з кінастужкі я прыгадаў з такой нагоды: на адной з педагагічных нарад пачуў, што нямала настаўнікаў пасля дзесяці-пятнаццаці гадоў працы ў школе атрымліваюць "прафесійнае захворванне" — трацяць голас, што гэта, маўляў, ад хранічнага псіхічнага, разумовага і фізічнагаператамлення. Сапраўды, перагрузка ў многіх настаўнікаў вялікая, таму і становяцца яны пасля 10 — 15 гадоў настаўнічання пастаяннымі пацыентамі ўрачоў. Але ж хіба толькі перагрузка ўплывае на страту голасу?.. Я мяркую, што не столькі перагрузка вінавата ў гэтым, колькі няведанне законаў голасазнаўства. Менавіта па гэтай прычыне, на мой погляд, і не ўдаецца доўгі час утрымліваць свой голас у рабочым стане, таму і траціць ён пакрысе вынослівасць, гібкасць, рухомасць і палётнасць.

І страта такіх якасцей настаўніцкага голасу адбываецца нават у выкладчыкаў мовы і літаратуры, якім, здаецца, не трэба тлумачыць сэнс паняцця "культура вуснай мовы".

Вось дык праблема!

Дзе ж яе карані?..

Давайце паспрабуем намацаць нітачку ў клубку.

...Першы дзень пачатку зімы — урэшце выпаў снег. За акном класа сыплюцца сняжынкі, аблямоўваючы белым пухам галіны дрэў. Наваколле на вачах пераўтвараецца, нібыта да яго дакрануўся чараўнік Дзед Мароз. Настаўніца заўважае, што ўвага дзяцей скіравана не на тое, што яна гаворыць на ўроку мовы, а туды, за акно. Некалькі вучняў, здаецца, забыліся, дзе яны знаходзяцца і літаральна прыліплі да вокнаў класнага пакоя. "Глядзіце, якая прыгажосць!" — выгукнуў нехта, і тыя, што сядзяць за партамі каля сцяны, прыўсталі, узіраючыся за акно, дзе весела-бесклапотна таньчаць карагод сняжынак. Настаўніца спрабуе вярнуць увагу дзяцей да тэмы ўрока, але дзе там! Не да прыметнікаў і дзеясловаў класу, калі на вуліцы такое хараство! "Сядайце! Хутчэй сядайце! Чаго вырачыліся — снегу не бачылі?" — настаўніца ўжо не стрымлівае гневу, ляскае журналам па стале. "Чаго ты зырышся! — бярэ за плячук вёрткага падлетка, які нешта гаворыць аднакласнікам, прыціснуўшыся носам да акна. — Глядзі лепш у кнігу!.." І пайшло, і паехала... Дзеці нарэшце ачомаліся, селі за парты, унурыўшыся ў свае сшыткі пад уладным голасам настаўніцы...

У той жа час у суседнім класе ішоў урок матэматыкі. Увагу вучняў таксама прыцягнуў прыгожы краявід за акном. Але настаўніцкага крыку не было. Настаўнік падышоў да акна, залюбаваўшыся, як і дзеці, чароўным зімовым відовішчам. І раптам пачаў дэкламаваць верш. Дзеці прыціхлі. Паэтычныя радкі былі сугучныя іх душэўнаму настрою! Без усякага настаўніцкага націску селі за парты. А твар настаўніка стаў яшчэ святлейшым ад прыязнай усмешкі: "Што ж, палюбаваліся першым снегам, а цяпер давайце зноў вернемся ў цудоўны свет лічбаў і формул..."

Два настаўнікі — дзве розныя пазіцыі ў педагогіцы. Рэч, думаю, не толькі ў педагагічнай падрыхтоўцы і характары. А і ў тым, на што настаўнік скіраваў свой галоўна "інструмент" — сваё слова, якім голасам вымавіў яго...

Хто-хто, а настаўніца-мовазнаўца магла б і такую "няштатную" сітуацыю, якая ўзнікла ў класе, выкарыстаць у педагагічных мэтах. Пэўна ж, развіццё мовы вучняў, узбагачэнне іх слоўнікавага запасу, лагічнага мыслення, умення параўноўваць, абагульняць, яна назвала б адным з асноўных накірункаў сваёй працы як выкладчыка мовы і літаратуры. Не хапіла псіхалагічнай і прафесійнай падрыхтоўкі? Бадай што так...

Калі ж павінна адбывацца развіццё вуснай мовы дзяцей, як не на ўроках, перапынках, гульнях, ва ўзаемінах з равеснікамі і дарослымі? Хіба ж сачыць за культурай мовы вучняў трэба толькі пры іх адказах на пытанні?

Распрацоўка сістэмы мовы, пачынаючы з падрыхтоўчага класа да заканчэння школы, выдзяленне дастатковай колькасці гадзін для фарміравання правільнай вуснай мовы — колькі коп'яў зламана ў дыскусіях па гэтых вострых праблемах! Мы часта бядуем, што многія вучні, якія атрымліваюць атэстат аб сярэдняй адукацыі, не валодаюць звязнай, лагічнай, выразнай мовай, не ўмеюць аналізаваць моўныя з'явы, не маюць належнага ўзроўню граматычнай карэктнасці. І, шукаючы шляхі вырашэння гэтай праблемы, ківаем на настаўнікаў мовы і літаратуры. Ківаем, бо і сапраўды ёсць за што ківаць. Хіба не бывае такога, што ўрокі, скажам, літаратуры абыходзяцца без... літаратуры? Не чытаючы самога мастацкага твора, вучань аналізуе яго ў адпаведнасці з выпрацаваным стэрэатыпам, нават сачыненні піша, грунтуючыся толькі на тым, што прачытаў у падручніку. Ён улавіў, што галоўнае — ведаць напісанае ў падручніку, вывучыць і пераказаць прачытанае — разбірацца ж у творы самастойна, асэнсаваць яго, думаць над тым, што чытаеш — навучыцца гэтаму паспяваюць, скажам так, далёка не ўсе. Тут і эстэтычная непадрыхтаванасць да сур'ёзнага, удумлівага чытання, і ненавучанасць любіць кнігу, і метадычныя пралікі ў правядзенні ўрокаў.

А калі ж выпускнік школы не навучыўся разважаць над старонкамі кнігі, над учынкамі і думкамі герояў, то наўрад ці ён будзе задумвацца як след над сваімі ўчынкамі і думкамі. І над сваімі словамі таксама.

ГЭТА адзін важнейшы філалагічны аспект надзвычай актуальнай праблемы культуры вуснай мовы. Ёсць і другі: гукавы бок мовы, выразнае чытанне, фарміраванне ўмення выказвацца вусна пра ўбачанае, пачутае, прачытанае. Вось на чым і стараюцца рабіць акцэнт высокакваліфікаваныя педагогі. А калі паглядзець на праблемы культуры вуснай мовы вучняў больш аб'ёмна, то тут патрабуюцца спецыяльныя даведаванні, у тым ліку, вывучэнне ўмоў, пры якіх дзеці набываюць трывалыя, бездакорныя моўныя навыкі.

Пацягнем нітачку далей. Ці толькі настаўнікі-славеснікі вінаваты ў плачэўным стане вуснай мовы многіх школьнікаў? Хіба, скажыце, на тых жа ўроках матэматыкі, фізікі, хіміі, біялогіі, гісторыі, фізкультуры не павінна таксама фарміравацца і ўдасканальвацца моўная культура вучня? Хіба не садзейнічае развіццю думкі і паглыбленню ведаў слова настаўніка любога прадмета, калі ў гэтым слове і дакладнасць, і вобразнасць, і яркая аналогія, і трапная параўнанне, і асацыяцыя!.. Зразумелі да чаго я вяду? Ці можа быць навучанне паспяховым, калі мова настаўніка бедная, "бяскрылая", непераканаўчая? А мы ж хочам, каб дзеці вучыліся па сваіх здольнасцях і фарміраваліся духоўна...

Так павялося, што, скажам, настаўнік фізкультуры лічыць сваю моўную місію выкананай, калі з яго вуснаў выходзяць словы выключна як інструктаж, кароткае патрабаванне, каментар ці парада па правілах выканання тых ці іншых фізічных практыкаванняў. Хіба ж не паспрыяла б абуджэнню ў вучня імкнення да фізічнага ўдасканалення такая вусная мова настаўніка фізкультуры, у якой бы знайшлося месца і для вобразаў з мастацкіх твораў, і для прыказак і прымавак, прымальных для фізічнай загартоўкі, а?

Так што падумаем: культура вуснай мовы вучня знаходзіцца ў прамой залежнасці ад культурнай мовы настаўнікаў. Школьнае жыццё паказвае, што недахоп майстэрства вуснай мовы адчуваюць не толькі маладыя, але і вопытныя настаўнікі. А калі ўзнік гэты прабел у прафесійнай падрыхтоўцы педагога? У студэнцкай аўдыторыі. Я лічу, што курс асноў майстэрства вуснай мовы павінен быць адным з галоўных у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных педагагічных навучальных установах. Так, удумлівыя выкладчыкі на занятках па выразнам чытанні і культуры мовы ўдзяляюць шмат увагі развіццю ў будучых настаўнікаў палётнасці голасу з улікам памераў залы і складу аўдыторыі. Студэнтаў вучаць вымаўляць тэксты шэптам (шэпт, як мы ведаем, абвастрае ўвагу, асабліва ў пачатковых класах), моўнаму дыханню і гучнай гаворцы, якая неабходна пры ўзаемінах з дзецьмі на вуліцы. Аднак пры ўсім гэтым не ўсе настаўнікі маюць развіты многатанальны (на чатырох-пяці нотах) дыяпазон голасу, не ўмеюць правільна эмацыянальна-псіхалагічна ўздзейнічаць на клас, у выніку чаго шмат у чым і ўскладняецца педагагічная задача.

ЦІ Ж можна, усведамляючы свае моўныя слабасці, пазбавіцца іх? Можна і патрэбна — праз мэтанакіраваную шліфоўку сваёй вуснай мовы, самастойнае навучанне калі не прамоўніцкаму майстэрству, то хаця б пазбаўленню ад тых "фефектов фечи", над якімі мы з вамі смяёмся, гледзячы прыгаданы мной кінафільм. Толькі так, напэўна, і ўдасца стварыць "візітоўку" сваёй культуры, якой і з'яўляецца ў многім вусная мова настаўніка. Хіба не так?

**Алег КУЛІЦКІ.**



Цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання і развіцця дзяцей адкрыўся ў Віцебску. Дзеці з цяжкімі фізічнымі і маўленчымі недахопамі займаюцца з урачамі-дэфектолагамі, псіхолагамі. Для развіцця здольнасцей дзяцей у цэнтры створаны ўсе ўмовы.

НА ЗДЫМКАХ: выхавацель Тамара Леанідаўна Клявец займаецца з Вікай Жараковай; вось такія адмысловыя пано змайстравалі на занятках гуртка вязання браты Саша і Міша Крыгель.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**



Пра што мараць дзеці

# "Хачу, каб у маім жыцці было ўсё, што патрэбна чалавеку"...

***— Пра што вы марыце ў новым тысячагоддзі? — такое пытанне задала я сваім сябрам і аднакласнікам. І вось што пачула.***

Насця: Я хачу, каб не было сварак з бацькамі і, нарэшце, усталявалася паразуменне. А то калі апранаеш маладзёжнае адзенне, крытыкі ў свой адрас не абярэшся: то спадніца кароткая, то камізэлька доўгая. А ўжо пра боцікі і слоў няма — высокія абцасы і платформы. Дык што ж рабіць, калі не ўдалася ростам?

Коля: Мая мара — каб маці зарабляла столькі грошай, каб нам з ёю хапала, бо бацька ўсё прапівае. Яшчэ вельмі хачу атрымаць добрую спецыяльнасць.

Галя: Вельмі жадаю, каб хлопцы кахалі як мага даўжэй, а не да першага пацалунка.

Ірына: Забываем пра пачуццё гумару. Між тым, у цяжкім становішчы трэба ставіцца да ўсяго з усмешкай. А калі ўмееш пасмяяцца не толькі над іншымі, але і над сабой, дык табе і ўсе пяць балаў.

Наташа: Што будзе, тое і добра. Час такі, што яго не зменіш.

Маша: Хачу здаровага і шчаслівага жыцця. Мае бацькі кажуць, што калі ёсць здароўе, дык будзе і шчасце. А калі ў цябе ёсць грошы, але няма здароўя і шчасця, дык навошта яны табе? Хаця хто яго ведае, для многіх шчасце — менавіта ў грошах.

Крысціна: Хачу, каб у маім жыцці было ўсё, што сапраўды патрэбна чалавеку: і шчасце, і каханне, і рызыка, і раўнавага. Цяжка выказаць адным словам, вось так, экспромтам.

Кожны думае па-свойму. А трэцяе тысячагоддзе — вось яно, пачалося...

**Інтэрв'ю ўзяла Ірына ЧАРНАБАЙ, выпускніца Чамярыскай школы Брагінскага раёна.**

Пісьмо ў рэдакцыю

# Курсавая за... грошы?

***У газетах практычна любога ўзроўню, на тэлебачанні і радыё, а цяпер ужо і на спецыяльных старонках ў Інтэрнеце можна знайсці аб'явы аб выкананні кантрольных і курсавых работ. Зразумела, не за проста так, а за грошы. І калі да рэпетытарства мы ўсе прывыклі яшчэ з часоў да перабудовы (і практыка паказвае, што веды, атрыманыя будучымі студэнтамі, "працуюць" на іх і ў гады вучобы), то прымаць "курсавую" за грошы — нельга.***

А нельга прымаць гэтую агідную ў нашым грамадстве з'яву таму, што спачатку будучы спецыяліст купіць кантрольныя работы, потым — курсавыя і дыпломныя, затым, спрытна ўладкаваўшыся, напрыклад, у школе, будзе калечыць з-за свайго прафесійнага невуцтва нашых дзяцей і ўнукаў. Ці стане (зноў жа за неблагія грошы) начальнікам цэха, кіраўніком прадпрыемства, завода. А мы ўсе разам будзем здзіўляцца: чаму гэта наша прамысловасць у такім гаротным стане? А чаму ж ёй не быць менавіта такой, калі ёю кіруюць "спецыялісты", якія вучыліся ў ВНУ, ды так і не сталі прафесіяналамі, таму што куплялі залікі, курсавыя і дыпломныя распрацоўкі і нават... экзамены.

Давайце хоць самім сабе шчыра прызнаемся, што вучыць сапраўднай працы, вучыць вучыцца шмат у чым не хоча (ці проста не ўмее) і некаторая частка прафесарска-выкладчыцкага корпуса. Калі гэта не так, то адкуль бяруцца нявыдуманыя гісторыі пра выкладчыкаў, якія бяруць хабар?

Цяпер у нашым грамадстве пашырана думка, што за грошы можна купіць практычна ўсё, у тым ліку і веды ў выглядзе дыплома. З першай часткай гэтага тэзіса павінны пагадзіцца ўсе, бо сапраўды добра, калі за грошы (сумленна заробленыя) можна купіць дом, кватэру, дачу, аўтамабіль, бытавую тэхніку, пуцёўку на курорт, адзенне, абутак, прадукты харчавання. А вось наконт пакупкі "ведаў" трэба званіць ва ўсе званы.

Патрэбна ў абавязковым парадку аднавіць адкрытую абарону ўсіх відаў кантрольных і курсавых работ. Бо даўно ўжо стала сумнай традыцыяй, што абарона курсавых работ у ВНУ з'яўляецца простай фармальнасцю. Існуе, напрыклад, неафіцыйнае правіла: калі студэнт возьме ўдзел ва ўнутрыінстытуцкай канферэнцыі і зачытае там "свой" даклад, які ў перапоўненай аўдыторыі ніхто не слухае, то ацэнка за курсавую работу ставіцца аўтаматычна. А вось у гады маёй вучобы курсавыя работы абаранялі на спецыяльным пасяджэнні кафедры, і абарона курсавой работы станавілася своеасаблівай рэпетыцыяй перад будучай абаронай дыпломнага праекта. Чаму б такую практыку не аднавіць зноў? Бо купленую курсавую работу студэнту давядзецца старанна вывучыць, унікнуць у самыя разнастайныя дэталі, ды і выкладчыкі, ведаючы здольнасці студэнта і ўзровень прадстаўленай да абароны курсавой работы, без асаблівай цяжкасці змогуць вывесці на чыстую ваду нядбайнага студэнта.

Зрэшты, сур'ёзныя і спрактыкаваныя педагогі і без маіх добрых парад ведаюць, як аддзяляць зерне ад пустазелля — было б жаданне. А вось яго, на жаль, часам і няма. А таму і пішуць (дакладней, "штампуюць") вынаходлівыя "педагогі" і кантрольныя, і курсавыя, і дыпломныя работы — абы за гэта плацілі.

... Некалі вельмі даўно ў "Літаратурнай газеце" на 16-й гумарыстычнай старонцы Віктара Веселоўскага была надрукавана аб'ява: "Мяняю кіраўніцтва і напісанне кандыдацкай дысертацыі на 4-пакаёвую кватэру і аўтамабіль. Ніжнія і верхнія паверхі, панельныя дамы і "Запарожац" не прапаноўваць. Магчымы варыянты". Тады гэта ўспрымалася як гумар. Цяпер такая аб'ява нікога не здзівіць. Раскрыйце любую газету — там без цяжкасці можна адшукаць процьму аб'яў: "Выконваю кантрольныя і курсавыя работы". Далей ідзе пералік прадметаў і нумар хатняга тэлефона. І мяркуючы па тым, што гэткія аб'явы працягваюць друкаваць, людзі, адказныя за здароўе нашага грамадства, па такіх тэлефонах пакуль не звоняць. А пара б ужо...

**Альберт БАГДАСАРАЎ, акадэмік Беларускай акадэміі сацыяльных навук, прафесар.**

Навіны

## У гонар губернатара

***Нядаўна ў Магілёўскім абласным цэнтры прайшлі чытанні, прысвечаныя 160-годдзю з дня нараджэння А.Дэмбавіцкага — былога губернатара, асветніка, чалавека шматлікіх навуковых інтарэсаў.***

У свой час губернатар паклапаціўся пра выданне трохтомнай калектыўнай працы "Вопыт апісання Магілёўскай губерні" — унікальнай краязнаўчай энцыклапедыі гэтага краю. Удзельнікі чытанняў — гісторыкі, краязнаўцы, творчая інтэлігенцыя — звярнуліся да выканаўчых улад горада і вобласці з прапановай назваць адну з вуліц Магілёва імем А.Дэмбавіцкага.

Мяркуецца выдаць навукова-папулярны зборнік "Магілёў губернскі", а таксама перавыданне "Вопыту...".

## "Зімовая вясёлка-2000"

***У Гомельскім абласным Грамадска-культурным цэнтры прайшоў фестываль "Зімовая вясёлка-2000".***

У ім прынялі ўдзел творчыя студэнцкія калектывы Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Ф.Скарыны, політэхнічнага універсітэта і універсітэта транспарту, кааператыўнага інстытута.

На фестываль прыехалі госці з Мазырскага педінстытута. Пераможцы фестывалю атрымалі прызы.

## Віталі земляка

***У Брэсцкай вобласці пабываў паэт, празаік і перакладчык Васіль Жуковіч, які нядаўна адзначыў сваё 60-годдзе.***

Былога свайго выпускніка цёпла вітаў філалагічны факультэт Брэсцкага універсітэта, дзе студэнты і выкладчыкі падрыхтавалі вялікую літаратурна-мастацкую кампазіцыю паводле твораў пісьменніка.

Потым ён чытаў свае новыя вершы, адказваў на пытанні, даваў аўтографы сваім чытачам.

Не менш шчырай і плённай атрымалася сустрэча і ў Камянецкай раённай бібліятэцы, дзе асноўнымі суразмоўцамі Васіля Жуковіча былі яго землякі: школьнікі і настаўнікі.

## У фатаграфіі новыя імёны

***Падведзены вынікі рэспубліканскага фотаконкурсу "Спадчына", які праводзіўся ў рамках кампаніі Савета Еўропы "Еўропа — актуальная спадчына".***

Арганізатарамі конкурсу былі Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Дзяржкамітэт па друку і Беларускі саюз журналістаў.

Пераможцамі конкурсу сталі Юрый Бірукоў з Гомельскай вобласці, Ігар Бышнёў з Лепельскага раёна, Васіль Зянько са Стоўбцаў.

Іх фотаработы накіраваны для далейшага ўдзелу ў міжнародным конкурсе, дзе яны таксама могуць разлічваць на прызнанне.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

Тры дні ў Віцебску праходзіў дзіцячы міжнародны фестываль харэаграфічных калектываў "Канікулы дружбы". Сваё майстэрства паказалі выхаванцы дзіцячых калектываў з Віцебска, Мінска, Санкт-Пецярбурга і Харкава.

НА ЗДЫМКУ: фрагмент фестывалю.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

За мяжой

## Сотавая сувязь на ўроках

***Большасць эмірацкіх школьнікаў, якім больш за 12 гадоў, маюць тэлефоны сотавай сувязі. Па "мабільніку" яны выклікаюць бацькоў ці шафёра для ад'езду са школы дамоў, пастаянна знаходзяцца "на сувязі" з сябрамі і старэйшымі сваякамі падчас раз'ездаў па горадзе, знаходжання на стадыёнах ці наведвання магазінаў.***

Развіццё сотавай сувязі ў Эміратах атрымала такое пашырэнне, што міністэрства адукацыі было вымушана забараніць школьнікам і нават настаўнікам карыстацца сотавай сувяззю ў час школьных заняткаў.

Паводле афіцыйных звестак, у краіне, насельніцтва якой набліжаецца да 3 млн. чалавек, сотавая сувязь налічвае амаль 1,2 млн. карыстальнікаў. Кожны другі жыхар краіны становіцца "тэлефонаманам", толькі закончыўшы пачатковую школу.

## Пяцьсот шчаслівўчыкаў

***У Маскве адбылася выстава брытанскіх прыватных школ. Яе наведвальнікі змаглі не толькі даведацца пра перспектывы паступлення ў брытанскія прыватныя школы, але і здаць пробныя ўступныя экзамены. Прычым школьнікі, якія паказалі лепшыя вынікі на экзаменах па англійскай мове і матэматыцы, атрымалі магчымасць вучыцца ў Англіі бясплатна.***

Дырэктар Брытанскага Савета ў Расіі Эдрыян Грыер на прэс-канферэнцыі паведаміў, што, нягледзячы на высокі кошт навучання ў брытанскіх прыватных школах (больш за 15 тысяч долараў у год), папулярнасць брытанскай адукацыі ў свеце няўхільна павялічваецца. Паводле ягоных даных, летась у прыватных школах Англіі вучыліся 500 расіян, у той час як яшчэ чатыры гады таму такіх шчаслівўчыкаў было ўсяго 20.

## Заняткі па Інтэрнету

***Вучням некалькіх прыватных школ і каледжаў Сінгапура пашанцавала больш за іх равеснікаў, паколькі ім першым выпаў гонар выпрабаваць на сабе ўсе выгоды інтэрактыўнай адукацыі, ці, іншымі словамі, павучыцца ў "школе XXI стагоддзя".***

Замест звычных школьных прылад вучням усіх навучальных устаноў, што ўдзельнічаюць у эксперыменце, былі выдадзены невялікія камп'ютэры — ноутбукі, падключаныя да сеткі Інтэрнет, дзякуючы якім ім цяпер зусім неабавязкова сядзець у гарачае надвор'е ў душных класах. Значна прыемней уладкавацца на траўцы ў школьным двары з бутэлькай якога-небудзь прахаладжальнага напою, а настаўнік пры дапамозе Інтэрнета з цэнтральнага камп'ютэра можа ў адпаведны час звярнуцца да любога са сваіх падапечных, даць заданне або праверыць, ці выканана дамашняя работа.

**Падрыхтаваў Ігар КАНДРАЛЬ.**

